Гродна
№5 (440),
6 сакавіка 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# НАБОЖНАСЦЬ




*Вера бывае рознай. І знешняе – не заўсёды люстэрка ўнутранага, а ўнутранае можа нават не выяўляцца знешне. Прапануем Вам задумацца над сваім духоўным жыццём і паразважаць над тым, ці не ілжывая наша набожнасць: ходзім у касцёл з прывычкі або з вялікай радасцю, молімся напаказ або на хвалу Бога, робім дабро дзеля ўласнай выгады або адказваем на заклік сэрца...*

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

**8 сакавіка**
Міжнародны жаночы дзень. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі жанчын.

**13 сакавіка**
3-я гадавіна абрання Святога Айца Францішка на пасаду св. Пятра. Молімся за Папу.

**19 сакавіка**
Урачыстасць св. Юзафа. Набажэнства для мужчын. Таксама дзень імянін папы на пенсіі Бенедыкта XVI і дапаможнага біскупа нашай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.

**20 сакавіка**
Вербная нядзеля. Асвячэнне вербаў, працэсія з вербамі. Сусветны дзень моладзі.

## Запрашаем!

**Праграма каталіцкай рэдакцыі**

**"Сімвал веры"**

Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-4"

**5 красавіка**
**ў аўторак у 19.45**
пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.

## Ружанцовыя інтэнцыі:

**Сакавік**

Аб ласцы навяртання і сапраўдным паяднанні з Богам і бліжнімі для непрактыкуючых вернікаў.

Аб узрастанні дабрачыннай дзейнасці ў парафіяльных супольнасцях.

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

**Якую з велікапосных практык Вы больш захоўваеце ў сваім жыцці?**

- пост
- малітва
- міласціна
- стараюся рэалізаваць усе
- не задумваюся над гэтым
- цяжка сказаць




# АДКРЫЦЬ СЯБЕ НАНОВА ПРАЗ ХРЫСТА




Рэкалекцыі, што праводзіў кс. Павел Рудзьман, дазволілі моладзі яшчэ больш паглыбіць свае адносіны з Богам

*Традыцыйныя велікапосныя рэкалекцыі для Душпастарства студэнцкай і працуючай моладзі "OPEN" адбыліся ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. Цягам трох дзён моладзь прысвячала свой час Богу і разважала над сваёй верай, адносінамі з Хрыстом і сваімі бліжнімі.*

Штогод рэкалекцыі для моладзі збіраюць вялікую колькасць удзельнікаў з розных парафій г. Гродна. Не стала выключэннем і сёлетняя сустрэча: маладыя вернікі прымалі актыўны ўдзел у духоўных практыкаваннях разам з рэкалекцыяністам кс. Паўлам Рудзьманам, душпастарам моладзі Пінскай дыяцэзіі.

● працяг на с. 5

**"Будзьма міласэрнымі да іншых і самі спазнаем міласэрнасць Бога" – папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**

**Лк 15, 1–3. 11–32**

Набліжаліся да Езуса ўсе мытнікі і грэшнікі, каб паслухаць Яго. А фарысеі і кніжнікі наракалі, кажучы: "Ён прымае грэшнікаў і есць з імі". Але Езус расказаў фарысеям і кніжнікам наступную прыпавесць, кажучы: "У аднаго чалавека было два сыны. Малодшы з іх сказаў бацьку: «Ойча, дай належную мне частку маёмасці». І той падзяліў паміж імі маёмасць. Праз некалькі дзён малодшы сын забраў усё і ад'ехаў у далёкі край, і там растраціў сваю маёмасць, жывучы распусна. А калі ён аддаў усё, настаў вялікі голад у тым краі, і ён апынуўся ў нястачы. Тады пайшоў і наняўся да аднаго жыхара гэтага краю, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свіней. Ён жадаў напоўніць жывот свой стручкамі, што елі свінні, але ніхто не даваў іх яму. Апамятаўшыся, ён сказаў: «Колькі наймітаў у бацькі майго маюць удосталь хлеба, а я гіну тут з голаду. Устану і пайду да бацькі майго, і скажу яму: Ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх». І ён устаў, і пайшоў да свайго бацькі. А калі быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька яго і зжаліўся. І, пабегшы, кінуўся яму на шыю, і пацалаваў яго".

## ЧАС ВЯРТАННЯ

Нам вядомы працяг прыпавесці: малодшы сын зноў атрымаў сваё месца ў сям'і. Да незадавальнення свайго старэйшага брата, які абразіўся на шчодрасць бацькі. Але, праўду кажучы, блудны сын ніколі не губляў сваёй годнасці: яна чакала яго ў бацькоўскім сэрцы і ў цярплівым выглядванні – калі ён нарэшце зразумее, што страціў, калі вернецца! Можа, патрэбна была юнацкая палкасць і глупства, каб змагчы адчуць балючыя вынікі і апамятацца?

Мінаюць стагоддзі, а прыпавесць застаецца актуальнай... Вось бы мы не хацелі рызыкаваць сваёй годнасцю, а калі раптам заблукаем, то каб бацька не чакаў вельмі доўга...

**V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**

**Ян 8, 1–11**

Езус пайшоў на Аліўную гару, а раніцай зноў з'явіўся ў святыні. І ўсе людзі ішлі да Яго, а Ён сеў і вучыў іх. Прывялі тады кніжнікі і фарысеі да Яго жанчыну, якую злавілі на чужалостве. Паставілі яе пасярэдзіне і сказалі Яму: "Настаўнік, гэтую жанчыну злавілі на чужалостве. А Майсей наказаў нам у Законе каменаваць такіх. А Ты што скажаш?". Яны казалі гэта, бо выпрабоўвалі Яго, каб мець у чым абвінавачваць Яго. Але Езус, схіліўшыся, пісаў пальцам па зямлі. Калі ж пыталіся ў Яго далей, Ён выпрастаўся і сказаў ім: "Хто з вас без граху, няхай першы кіне ў яе камень". І зноў, схіліўшыся, пісаў па зямлі. Яны ж, калі пачулі гэта, выйшлі адзін за адным, пачынаючы са старэйшых. Застаўся адзін Езус і жанчына, якая стаяла пасярэдзіне. Езус выпрастаўся і сказаў ёй: "Жанчына, дзе яны? Ніхто не асудзіў цябе?". Яна адказала: "Ніхто, Пане". Езус сказаў ёй: "І Я не асуджаю цябе; ідзі, і адгэтуль больш не грашы".

## ПАКОРНАСЦЬ ГРЭШНІКА

Пры чытанні гэтага Евангелля наша ўвага засяроджваецца на фарысеях, якіх Езус прысароміў, "выцер нос", прыгадваючы, што ніхто не без граху. Але ж важнейшай за фарысеяў была абвінавачаная жанчына. Сустрэча Езуса з грэшніцай, якая рызыкавала жыццём, пачалася драматычна, была такой нечаканай, што ніхто не мог прадбачыць яе выніку. Аж такога! Яна не толькі выратавала сваё зямное жыццё, але распачала абсалютна новы яго этап. Традыцыя хоча бачыць у ёй Марыю з Магдалі – жанчыну з-пад крыжа, тую самую, якая першай атрымала прывілей сустрэчы з Хрыстом як Пераможцам смерці, пекла і шатана.

Евангелле ўвесь час здзіўляе і ўзрушвае нас. Яно павінна таксама навучаць, змяняць нашае жыццё. Можа, мы не пачуем: "Ідзі, і адгэтуль больш не грашы", але давайце не будзем горшымі за фарысеяў.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Велікапоснае сэрца



**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

*Сённяшні свет становіцца ўсё менш чалавечны. У сродках масавай інфармацыі часцей можна пачуць пра войны, забойствы, аварыі і катастрофы. Нават сам чалавек перастае быць чалавечным. Можа, гэта занадта моцнае сцверджанне, але мы пачынаем усё больш клапаціцца і непакоіцца пра свой мабільны тэлефон, чым пра сэрца, пра аўтамабіль, чым пра блізкіх, пра фінансавую незалежнасць, чым пра духоўнае развіццё. Чалавек губляе сваё месца ў гэтым свеце, губляецца сам. Забываючыся пра Стварыцеля, мы забываемся пра тое, хто мы і ў чым сэнс нашага жыцця.*

Перыяд Вялікага посту дае надзею на тое, што нам яшчэ хопіць сіл, каб пераадолець усе свае слабасці і перажыць уласнае навяртанне. Папскі прапаведнік а. Канталамеса падчас рэкалекцый расказаў пра адно такое навяртанне і пра моц уздзеяння Божага слова ў жыцці чалавека. "Гэта быў алкаголік на апошняй стадыі. Ён не мог вытрымаць больш за дзве гадзіны, каб не выпіць. Сям'я знаходзілася на мяжы адчаю. Яго разам з жонкай запрасілі на сустрэчу аб Божым слове. Там хтосьці прачытаў фрагмент Святога Пісання. Адзін сказ працяў мужчыну, як полымя агню, і даў яму ўпэўненасць, што ён аздароўлены. Пазней кожны раз, як з'яўлялася спакуса выпіць, мужчына хутка разгортваў Біблію ў гэтым самым месцы. І толькі зноў чытаючы гэтыя словы, адчуваў, што да яго вяртаецца сіла ажно да поўнага выздараўлення. Калі ён хацеў сказаць, што гэта за сказ, яго голас задрыжаў ад хвалявання. Гэта былі словы з Песні песняў Саламона: "Твая любоў лепшая за віно" (1, 2). Вучоныя крыцілі б носам ад такога прымянення біблійнага тэкста, але гэты чалавек мог сказаць: «Я быў мёртвы, а цяпер я вярнуўся да жыцця». Так, як сляпы ад нараджэння казаў тым, хто яго крытыкаваў: «Я быў сляпы, а цяпер бачу» (параўн. Ян 9, 10)", – сказаў а. Канталамеса. Такія сведчанні даюць нам пацвярджэнне таго, што чалавек не здолее нічога зрабіць сам, што толькі разам з Богам ён можа пачуць тут, на зямлі, сапраўдны смак шчасця. Навяртанне становіцца крокам у пазнанні Бога і Яго збаўчага плану адносна кожнага з нас.

Змяніць лёсы сваёй гісторыі жыцця, зразумець сэнс уласнага жыцця – гэта заданні для кожнага з нас. Усім неабходна навяртанне, таму што мы бачым сваю слабасць. Яго можна перажыць толькі тады, калі мы запросім Хрыста ў сваё сэрца, калі пачнём клапаціцца пра тое, што для нас з'яўляецца збаўчым. У цэнтры велікапоснага перыяду знаходзіцца наша ўласнае сэрца, у якім жыве ўкрыжаваны Хрыстос. Мінула ўжо большая частка гэтага перыяду, таму варта задумацца, ці былі намі прыняты той заклік да навяртання, які мы чулі на пачатку Вялікага посту, ці спрыяе клімат гэтага часу глыбейшаму роздуму над таямніцай Хрыста і над уласным жыццём.

**"Клапаціся ў сваім сэрцы аб тым, што мілае Богу, – заахвочвае св. Аўгустын. – Трэба яго разбурыць. Чаму ты баішся, што разбуранае яно перастане існаваць? Напісана: «Чыстае сэрца ствары ўва мне, Божа». Каб магло ўзнікнуць чыстае, трэба разбурыць нячыстае". Нашае сэрца становіцца месцам сустрэчы з Хрыстом, месцам крыжовай ахвяры. Нельга губляць уласную чалавечнасць, нельга губляць сваё жыццё, але разам з Хрыстом пайсці на Галгофу, каб з'яднацца з Ім ва ўваскрасенні. Няхай нашыя велікапосныя сэрцы будуць напоўнены Богам.**

ДЭКАНАТ ЛІДА

# Вавёрка

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

Адна з найстарэйшых парафій Лідскага дэканата. Увогуле, шэраг даследчыкаў звязвае гісторыю вёскі з летапісным горадам Вевярэскам. Касцёл быў заснаваны тут у 1413 г. па фундацыі Міхала Галгіновіча і першапачаткова асвечаны пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы (гэта першае гістарычнае ўзгадванне вёскі ў пісьмовых крыніцах). У 1500 г. тут вядомыя ўжо дзве парафіі – у Вялікай (Старой) і Малой Вавёрках. Пасля Галгіновічаў вёскай уладарыў Мікалай Юндзіловіч, з 1522 г. – Касцевічы, потым Галеўскія. У 1570 г. Вавёрка атрымала статус мястэчка Лідскага павета. У сярэдзіне XVI ст. пры касцёле ў Вялікай Вавёрцы дзейнічалі тры алтары. Пры гэтым парафія ў Вялікай Вавёрцы лічылася адной з самых багатых у Віленскай дыяцэзіі, а парафія ў Малой – "убогай".

У 1568 г. парафія была пераведзена ў кальвінізм, але з 1648 г., дзякуючы езуітам, якія заснавалі тут сваю місію, зноў стала каталіцкай. Адроджаная святыня была пераасвечана пад тытулам св. Фрашцішкі. З гэтага часу ў гістарычных дакументах знікаюць звесткі аб парафіі ў Малой Вавёрцы. І мястэчка, і касцёл былі знішчаны падчас вайны 1654 – 1667 гг. з Масковіяй. Магчыма, святыня была адроджана ў 1659 г., паколькі ў нартэксе сучаснага касцёла захавалася старая капельніца з надпісам "Самуэль Кастравіцкі. 1659". Першы каменны касцёл на месцы струхнелага драўлянага быў пабудаваны ў 1840 – 1844 гг. на сродкі мясцовага землеўладальніка Самуэля Кастравіцкага (1788 – 1859 гг.) і таксама быў асвечаны ў гонар св. Францішкі Рымлянкі. Гэта быў аскетычны ў дэкоры, без асаблівых стылевых рысаў храм пад высокім гонтавым дахам без вежы (магчыма, вежа планавалася, але не была збудавана).

Да пачатку XIX ст. вавёрская парафія ўваходзіла ў склад Лідскага дэканата, пасля – у Радунскі дэканат, а ў часы польскай улады – у Васілішскі. Сёння зноў знаходзіцца ў Лідскім дэканаце. Да парафіі з XVIII ст. прыпісвалася капліца ў Дылеве, да 1864 г. – капліцы ў Лебедзе, Місевічах, Паперні і Радзівонішках. Да ўтварэння самастойнай парафіі ў Пелясе ў 1917 г., да вавёрскай парафіі далучалася яшчэ капліца ў гэтай мясцовасці, а таксама капліца ў Станкевічах. Перад Другой сусветнай вайной колькасць парафіян складала амаль 9000 асоб.

Вавёрская парафія прымала актыўны ўдзел у паўстанні 1863 г. Пробашч касцёла кс. Раймунд Зямацкі па загадзе М. Мураўёва "за прачытанне маніфесту паўстанцаў" быў расстраляны на Лукішках у Вільні 5 чэрвеня (24 мая па старым стылі) 1863 г. Але каталіцкая вера ў гэтых краях была такой моцнай, што зачыніць касцёл уладам не ўдалося.



*Знешні выгляд святыні*

Велічны касцёл у стылі неабарока, які дзейнічае і сёння, у 1928 г. увабраў у сябе аб'ём папярэдняй святыні, якая цяпер стала правай бакавой навай. Значная рэканструкцыя адбылася намаганнямі тагачаснага пробашча кс. Францішка Песцюка. Пры гэтым касцёл атрымаў новы тытул – Перамянення Пана. Урачыстае асвячэнне святыні правеў 13 лістапада 1928 г. лідскі дэкан кс. Іпаліт Баярунец. Але будаўніцтва святыні працягвалася. У 1929 г. былі пабудаваны арганныя хоры, у 1932 г. скончаны вежы і драўляная столь (паводле праекта інжынера Бароўскага). Арган на 15 галасоў на хорах усталявалі ў 1936 г.

Святыня ўяўляе сабой дзвюхвежавую трохнавую базіліку з прамавугольнай у плане апсідай, якую фланкуюць дзве невялікія сакрыстыі, і трансептам, крылы якога ўтвараюць пяціграннія ў плане капліцы. Галоўны фасад, завершаны маленькім неабарокавым франтонам, фланкаваны дзвюма пяціяруснымі (апошні ярус пяціграннік, ніжэйшыя – чацверыковыя) вежамі-званіцамі, увенчанымі фігурнымі неабарокавымі купаламі з глаўкамі. Фігурны неабарокавы франтон завяршае і сцяну цэнтральнай навы.

Інтэр'ер, перакрыты плоскай падшыўной бэлечнай столлю, упрыгожваюць тры драўляныя разьбяныя алтары і адзін каменны – алтар былога касцёла ў правай наве. Ён створаны ў стылі неабарока на аснове эклектычнага ордэра, двух'ярусны. У першым ярусе змешчана разное Укрыжаванне ў атачэнні шматлікіх вотаў, у другім – абраз св. Яна Непамука. Галоўны алтар, скончаны ў жніўні 2004 г., вырашаны як трыфорыум з вітымі калонамі. У яго цэнтры змешчаны абраз Перамянення Пана (копія знакамітай стацыі Рафаэля), па баках усталяваны бетонныя фігуры святых апосталаў Пятра і Паўла. У крылах трансепта змешчаны бакавыя алтары: злева – Маці Божай Вавёрскай (алтар яшчэ не аформлены; магчыма, на яго месцы 9 сакавіка 2016 г. асвечаны новы алтар у гонар св. Францішкі Рымлянкі), справа – двух'ярусны алтар св. Антонія. Крыпты пад касцёлам няма. Над нартэксам зроблены арганныя хоры.

Вернікі абаранілі сваю святыню ў безбожныя дзесяцігоддзі савецкай улады, збіраліся ў святыні нават калі парафія была без сталага пробашча. Пасля рэстаўрацыі адроджаная святыня зноў упрыгожвае Вавёрку. У 1998–2000 гг. пабудаваны новы мураваны будынак плябаніі і парафіяльнага цэнтра.



*Інтэр'ер святыні*



*Галоўны алтар*

# “Я ў Богу” або “Бог ува мне”?



• працяг са с. 1

Варта размяжоўваць набожнасць “здаровую” і “нездаровую”. Да “нездаровай” набожнасці можна аднесці афектаваную – перабольшана эмацыйную, падкрэсленую і штучную. Такая вера характэрна людзям, якія, праслаўляючы Бога, займаюцца самалюбаваннем, шукаюць асалоды ад працэсу, а не ад самой сутнасці. Так, напрыклад, вернік збіраецца ў касцёл з думкай “мяне ж убачаць столькі людзей” і апранае сваё самае прыгожае адзенне. Каб усе заўважылі, прыходзіць і сядае ў першыя лаўкі. Як жа ён цешыцца, калі нехта ацэньвае ўбранне і гаворыць нешта прыемнае. І нібы для Бога апранаецца, а атрымоўваецца, каб задаволіць сябе. Або вырашае вернік маліцца спевам. І не заўважае, як пагружаецца ў сябе і пачынае засяроджана лавіць па пакоі сваё чыстае эха: “які ж у мяне прыгожы голас”. Бог адыходзіць кудысьці на другі план.

Існуе яшчэ адна разнавіднасць “нездаровай” набожнасці – набожнасць напаказ або ханжаства. Гэта дэманстратыўная форма набожнасці пры таемнай або відавочнай нявернасці вызнаваным ідэям. Уявім сабе верніка, які прыходзіць у касцёл “для бацькоў” або “для пробашча”, з якім добра знаёмы. Навошта? Вобраз набожнага верніка гарантуе прыемныя бонусы: супакой блізкіх, павагу духавенства. Як бачым, паводзіны такога чалавека разлічаны галоўным чынам на публіку або для самаапраўдання. Некаторыя людзі посцяцца “напаказ”: афішуюць, колькі сіл імі прыкладаецца для ачышчэння душы і цела. На самой справе, каэфіцыент карыснага дзеяння пакаяннага перыяду змяншаецца з-за піяру “сябе ў посце”. Чалавек узносіць свае намаганні на пастамент замест таго, каб стаць гэтым самым пастаментам. Ханжа прыкладае да іншых стандарты, якія адмаўляецца ўжываць да сабе. Вось, напрыклад, прыйшла жонка дадому пасля Імшы і сварыцца на мужа за нейкія дробязі. І гадзіны не мінула, як яна слухала казанне святара аб умеркаванасці ў словах, а паступае наадварот, апраўдваючыся: “у маёй сітуацыі прамаўчаць нельга”. А, можа, проста сказаць па-іншаму?

Сярод людзей часам можна сустрэць крывадушную набожнасць, калі чалавек няшчыры ў сваіх дзеяннях, двудушны. Так здараецца, калі вернік, напрыклад, не даглядае бацькоў, а змяшчае іх у дом састарэлых. І нібы ёсць “уважлівая” прычына – “увесь час працую, персанал забяспечыць лепшы догляд”. А ў нядзелю – да Бога… які пакінуў людзям запаведзь “Шануй бацьку свайго і маці сваю”. І атрымліваецца, што амаральным учынкам прыпісваецца псеўдамаральны сэнс. Падобныя сітуацыі таксама можна назіраць за набожным знешне чалавекам, які нешта крадзе з працы. У яго галаве – “мне сям’ю карміць трэба”, а на вуснах – “хлеба нашага штодзённага дай нам сёння”.

Сярод вернікаў існуе і абрадавая набожнасць. Часцей за ўсё яна характарызуе людзей, якія прытрымліваюцца рэлігіёзных звычаяў па ўзоры астатніх (“бо ўсе так робяць”), не разумеючы самой сутнасці духоўных рэчаў. Так вернік прыходзіць у касцёл, ставіць ля абраза свечку, “загадвае жаданне” і адгаворвае “спецыяльныя” малітвы. Набожнасць нагадвае нейкі рытуал, у якім важна захаваць паслядоўнасць дзеянняў. У адваротным выпадку “жаданне” можа не здзейсніцца. Бог становіцца “залатой рыбкай”, якая спаўняе мары. Падобная сітуацыя адбываецца з людзьмі, якія ходзяць у касцёл з прывычкі: у святыні пануе прыемная атмасфера, там можна сустрэць добрых людзей… Але тут увогуле няма Бога. Усё не так дрэнна, калі ўзяцца з розумам і прааналізаваць сваю звычку. Гэта павінна дапамагчы паглыбіць адносіны з Усявышнім і напоўніць звычайныя абрадавыя дзеянні насычаным духоўным зместам.

“Здаровая” набожнасць – гэта глыбокая вера ў Бога са строгім захаваннем усіх рэлігійных абрадаў і прадпісанняў. Сапраўдны вернік прытрымліваецца таго, ува што верыць. І робіць гэта не для сябе і другіх, а таму што баіцца пакрыўдзіць Бога. Святасць знешняга ўтвараецца са святасці ўнутранага – любові да праўды і сумленнасці дзеля самой праўды і сумленнасці.

Набожны чалавек пакорлівы. Ён практыкуецца ў малітве, уважліва слухае казанні, аналізуе сваё жыццё ў адпаведнасці з імі, сочыць за сваімі думкамі, словамі і ўчынкамі, рэгулярна прыступае да сакрамантаў, наведвае касцёл. Пры гэтым вернік кіруецца добрай воляй. Набожны чалавек умее ўбачыць у з’явах, істотах і прадметах Усявышняга. Ён узіраецца ў свет, слухае і імкнецца зразумець Яго знакі і падказкі, дзякуючы чаму духоўна ўзрастае.

Моцная набожнасць азначае пастаянную працу над знішчэннем нізкіх схільнасцей, што з’яўляецца самай важнай умовай узыходжання па духоўным шляху. Сапраўдны вернік не бачыць канца гэтага падарожжа, яму заўсёды ёсць да чаго імкнуцца – “дасканаласць не мае межаў”. Набожны чалавек увесь час раўняецца на Бога, прытрымліваецца Яго законаў. Адчувае глыбокую пашану і святое трапятанне перад Творцам. Жывая адданасць Богу вызваляе розум верніка ад турбот і напаўняе яго сэрца радасцю і супакоем.

Набожны чалавек – гэта не той, хто ведае на памяць Біблію, а той, хто сустрэўся з Богам у сваім сэрцы і злучыўся з Ім у адно. Злучыўся настолькі, што не ўяўляе без Усявышняга свайго жыцця. Ён – у цэнтры ўсіх інтарэсаў.

Безумоўна, кожны можа “захварэць”. Але прыемна тое, што ў духоўным жыцці няма невылечных хвароб: на ўсё знойдуцца лекі. Для прафілактыкі рэкамендуецца час ад часу карыстацца тэрмометрам і вымяраць тэмпературу сваёй душы. Што і прапануем Вам зараз зрабіць.

***Ангеліна Пакачайла***



***Кс. Ян Кучынскі,***
***пробашч гродзенскай катэдры***

*Часта выконваючы тыя самыя рэчы, рухі, абавязкі, чалавек можа ўпасці ў звычку, у руціну. Так, напрыклад, піць каву раніцай, хрысціцца перад цяжкай сітуацыяй, прыветліва ўсміхацца, трымаць рэчы на стале ў адпаведным парадку – усё гэта хутка становіцца звычкай. Падобнае можа здарыцца і з нашымі адносінамі да Бога, нашай набожнасцю. Каб пазбегнуць гэтага, кожны павінен маліцца ў адпаведнай інтэнцыі. Збіраючыся ў касцёл, неабходна прыгадаць, навошта мы туды ідзём, усвядоміць, што там нас чакае сустрэча з Езусам, паразважаць, што Яму сёння сказаць, за што падзякаваць, чаго папрасіць. Выходзячы з касцёла, падумаць аб тым, што мы сёння забіраем дадому, якім Божым дарам, атрыманым у час св. Імшы, падзелімся са сваімі блізкімі? Падрыхтоўка да нядзельнай эўхарыстычнай сустрэчы павінна працягвацца ўвесь тыдзень, таму што Эўхарыстыя з’яўляецца вяршыняй нашага жыцця.*

### Тэст на вызначэнне стану набожнасці:

1. **Ці патрэбны мне доказы існавання Бога?**
2. **Наколькі я давяраю Усявышняму?**
3. **Змог бы ўсё аддаць Богу?**
4. **Ці саромеюся я сваёй веры?**
5. **Ці супадаюць мае думкі з дзеяннямі?**
6. **Навошта я малюся?**
7. **Чаму прытрымліваюся Божых наказаў?**
8. **З якой мэтай удзельнічаю ў набажэнствах?**
9. **Як я перажываю літургічны год?**
10. **У чым бачу сэнс свайго жыцця?**

*Калі ўколы сумлення дасягалі Вашага сэрца, магчыма, варта над нечым задумацца. Выправіцца ніколі не позна.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Багацце і ўлада – гэта тое, што можа быць добрым і карысным для супольнага дабра пры ўмове, што яны будуць пастаўлены на службу ўбогім і ўсім людзям па патрабаванні справядлівасці і міласэрнасці. Але калі яны, як гэта часта бывае, успрымаюцца як прывілей, з эгаізмам і пагардай яны пераўтвараюцца ў інструмент карупцыі і смерці. Губляецца вымярэнне служэння, улада перамяняе яго ў панаванне і прыгнёт.*

*Езус, памятаючы пра гэта, кажа нам: “Вы ведаеце, што кіраўнікі народаў пануюць над імі, і вяльможы маюць уладу над імі. Але не так няхай будзе сярод вас: хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе вашым нявольнікам” (Мц 20, 25–27).*

*Езус Хрыстус – сапраўдны Цар, але Яго ўлада зусім іншая. Яго тронам з’яўляецца крыж. Ён не той цар, які забівае, а той, які дае жыццё. Яго выхад да ўсіх, а асабліва самых слабых, перамагае адзіноту і прызначэнне смерці, да якой вядзе грэх. Праз сваю блізкасць і чулы клопат Ён вядзе грэшнікаў на прасторы ласкі і прабачэння.*

*Агульная аўдыенцыя*
*Святога Айца, 24.02.2016*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Езус кажа: прасіце, і вам будзе дадзена, шукайце і знойдзеце, стукайце, і будзе адчынена. І мы просім, шукаем і стукаем, але вельмі рэдка атрымліваем, рэдка знаходзім і не заўсёды нам з радасцю адчыняюць дзверы. Гэта наш штодзённы досвед, праўда нашага жыцця, хоць мы з ёю не заўсёды жадаем прымірыцца. Ці азначае гэтая праўда, што Езус раздае дарэмныя абяцанні?*

*Напэўна, не. Ён выразна кажа, што наш нябесны Айцец дае нам толькі добрыя рэчы, падобна таму, як наш зямны біялагічны айцец не дасць нам камень, калі мы просім хлеба, або змяю замест рыбы. Праблема ў тым, чаго мы просім. Нездарма апостал Павел у Пасланні да Рымлянаў кажа, што без дапамогі Святога Духа мы не ведаем, чаго просім. Таму кожная наша малітва, якая не ад Святога Духа, не будзе выслухана Богам.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас пастарскай сустрэчы духавенства і кансэкраваных асоб Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі*




### Малітва аб добрай жонцы

**Пане Божа, Ойча нябесны, Ты бачыш усё маё жыццё, так як я з вяршыні гары азіраю краявід, што ляжыць перада мною. Ты ведаеш, дзе жыве дзяўчына, якая калісьці, калі сустрэнецца са мной, пакіне бацьку свайго і маці і аддасць мне сэрца і руку, каб адгэтуль мы належалі адзін аднаму. Прашу ў Цябе разважлівасці і цярплівасці, каб я знайшоў добрую спадарожніцу і маці маіх дзяцей, якую Ты выбраў для мяне, перш чым мы нарадзіліся.** *Амэн.*

### Малітва аб добрым мужу

**Ойча мой нябесны, калі Твая воля, каб я выйшла замуж, ужо жыве дзесьці той чалавек, які мяне шукае, з якім я змагу з’яднацца, бацька маіх дзяцей. Ахіні яго апекай. Няхай ён застанецца чыстым, няхай будзе спакойным і высакародным – для Цябе і для мяне. Захавай таксама мяне для яго. Засей добрыя зярняты ў нашыя сэрцы цяпер, вясной нашага жыцця. Узмацні іх, каб наш будучы дом быў багаты на Твае ласкі.** *Амэн.*




*◆ У лютым адбыліся чарговыя сустрэчы Рады кардыналаў, якая працуе над рэформай Рымскай курыі. Іерархі дыскутавалі над "здаровай дэцэнтралізацыяй" і зацвердзілі праект стварэння двух новых дыкастэрый: Кангрэгацыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця, а таксама Кангрэгацыі па справах справядлівасці, міру і міграцыі. Першая структура павінна паглынуць Папскую раду па справах свецкіх, Раду па справах сям'і і Папскую акадэмію жыцця. Другая – Папскую раду "Iustitia et Pax", Раду "Cor Unum" і Раду па справах душпастарства службы аховы здароўя. Цяпер канчатковае рашэнне адносна гэтай справы прымае папа Францішак.*

*◆ Тры гады працягнецца рамонт базілікі Нараджэння ў Бэтлееме, якая была пабудавана ў IV стагоддзі імператрыцай Аленай над месцам нараджэння Езуса Хрыста. Гэта найбуйнейшая рэстаўрацыя старажытнай святыні за апошнія 600 гадоў. Каманда, якая складаецца з палестынцаў і міжнародных экспертаў, здымае накоплены за многія стагоддзі пыл, рамантуе вокны і дах касцёла, раскрываючы ўсё хараство твораў мастацтва, датаваных часамі крыжовых паходаў. "Упершыню можна ўбачыць сапраўды выдатныя і прыгожыя мазаікі, якіх няма больш нідзе ў свеце", – кажа Зіяд аль-Бандак, кіраўнік палестынскага камітэта, які займаецца рэстаўрацыяй базілікі.*

*◆ Сястра Ганна Сусберг, што напісала бестсэлер з выкладання катэхізіса, памерла месяц таму ва ўзросце 111 гадоў. Нарадзілася ў багатай сям'і ў Бельгіі. У 25-гадовым узросце ўступіла ў Таварыства памочнікаў святых душ – манаскі ордэн, прысвечаны дапамозе бедным слаям насельніцтва. У 1965 годзе апублікавала гід-катэхізіс "Прамаўляйце да маіх людзей". Ва ўзросце 94 гадоў паступіла ў Кінгсвейскі каледж мастацтва. Уваходзіла ў пяцёрку самых пажылых людзей Вялікабрытаніі.*

*◆ 12-гадовы хлопец патэлефанаваў у аддзяленне паліцыі ў Ольштыне і папрасіў дапамогі, бо дома адбыліся сямейныя непаразуменні. "Калі тэлефануе непаўнагадовы, трэба хутка рэагаваць, бо гаворка ідзе пра дабрабыт дзіцяці", – кажа маёр Кшыштаф Бісёр. На месцы высветлілася: прычына звароту ў тым, што бацькі забаранілі хлопцу карыстацца камп'ютарам, бо ён дрэнна паводзіў сябе ў школе. Паліцэйскія паведамілі бацькам, што падрыхтуюць дакумент, які апісвае дадзенае здарэнне, і перададуць яго ў сямейны суд. Так выглядае працэдура, якая не прымае рашэння аб чыёйсьці віне. Суд павінен разабрацца ў апісанай сітуацыі і прыняць адпаведнае рашэнне.*

*◆ Падкамісія па справах літургічнай музыкі пры епіскапаце РКК Украіны падчас Вялікага посту адкрыла новы інтэрнэт-рэсурс cantices-rkc.org.ua. Віртуальная старонка прысвечана спеву, які выкарыстоўваецца падчас Імшаў і набажэнстваў. На сайце змяшчаюцца словы і ноты. Большасць песень прадстаўлена ў выглядзе аднаго слупка і прыпева. Кожны жадаючы мае магчымасць прапанаваць свае тэксты і відэа. "Разам з Вамі мы зможам расці", – каментуюць праект стваральнікі сайта.*

*credo-ua.org; gosc.pl; pch24.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Духоўнікі святой Фаўстыны Кавальскай

***Кожны хрысціянін мае патрэбу ў дасведчаным і чуйным духоўным настаўніку, здольным умацаваць у веры і дапамагчы ў распазнанні Божай волі. Святая Фаўстына некалькі гадоў малілася аб духоўніку, які б дапамог ёй у выкананні прароцкай місіі Міласэрнасці. І атрымала. У Вільні яе спаведальнікам і духоўным настаўнікам быў бласлаўлёны кс. Міхал Сапоцька, а ў Кракаве – а. Юзаф Андраш SJ.***




Упершыню кс. Сапоцька сустрэўся з сястрой Фаўстынай у чэрвені 1933 года ў Вільні, дзе быў спаведальнікам Кангрэгацыі Сясцёр Божай Міласэрнасці. "Ужо з самага пачатку яна паведаміла мне, – успамінаў ксёндз праз гады, – што ведае мяне з нейкага бачання, што я павінен быць яе духоўнікам і ажыццявіць нейкія планы Бога, якія яна мне прадставіць".

З "Дзённіка" мы ведаем, што с. Фаўстына не адразу адкрылася свайму спаведальніку, хоць ён і быў паказаны ёй Богам. Сам Езус павінен быў павучаць яе. Паслухмянасць не дала сястры размінуцца з Божай воляй. Святая малілася за свайго спаведальніка, ахвяравала за яго пакуты. А ён даваў сястры веды, дзякуючы чаму яна з любові да Бога праходзіла ўсе стадыі дасканаласці. Ксёндз умацоўваў сястру і падтрымліваў яе. Неаднаразова выказваў думку, што абвяшчэнне праўды аб Божай міласэрнасці з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю. Менавіта па яго патрабаванні с. Фаўстына пачала пісаць "Дзённік".

Паволі ксёндз стаў памочнікам у рэалізацыі заданняў Езуса. Гэта ён паклапаціўся аб тым, каб у 1934 годзе ў Вільні быў напісаны абраз Езуса Міласэрнага і каб адбылося яго першае публічнае шанаванне ў Вострай Браме падчас святкавання Юбілею Змёртвыхпаўстання. Акрамя таго, ім былі напісаны некалькі прац, прысвечаных сутнасці Божай міласэрнасці.

Кс. Сапоцька быў спаведальнікам і духоўным настаўнікам с. Фаўстыны да 21 сакавіка 1936 года. Пазней ён падтрымліваў з ёю цесны кантакт праз перапіску. Ксёндз даваў сястры шматлікія парады і рэкамендацыі адносна духоўнага жыцця і выканання місіі.

Духоўнік наведваў сястру ў манастыры і ў шпіталі. Пасля сваёй апошняй сустрэчы і размовы з сястрой ксёндз напісаў: "Я адчуваў вялікі боль у душы і горыч, бо павінен быў развітацца з гэтым незвычайным стварэннем... (...) Па маёй просьбе, [сястра Фаўстына] пажадала мне ўсіх Божых ласкаў і, развітваючыся, абяцала маліцца тут і пасля смерці". Ксёндз стаў прадаўжальнікам апостальскай місіі с. Фаўстыны. Да канца свайго жыцця ён клапаціўся пра тое, каб святаа было ўстаноўлена і культ Божай міласэрнасці атрымаў адабрэнне святарскай іерархіі.

Памёр у Белостоку 15 лютага 1975 года. У 2004 годзе папа Ян Павел II абнародаваў дэкрэт аб гераічных дабрадзейных справах Слугі Божага кс. Міхала Сапоцькі, а затым – дэкрэт пра цуд, які адносіцца да яго заступніцтва. Беатыфікаваны 28 верасня 2008 года. Мошчы бласлаўлёнага знаходзяцца ў санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Беластоку.

**Айцец Юзаф Андраш SJ**

Упершыню с. Фаўстына звярнулася да а. Андраша падчас рэкалекцый перад тым, як скласці вечныя манаскія абяцанні ў красавіку 1933 года. Ён быў квартальным спаведальнікам навіцыяту Кангрэгацыі Сясцёр Божай Міласэрнасці ў Кракаве-Лагеўніках. У яго таксама спавядаліся і манахіні, якія склалі абяцанні.

Пастаянным духоўным настаўнікам с. Фаўстыны айцец стаў у апошнія гады яе жыцця, якія яна правяла ў Кракаве (1936–1938 гады). А пасля смерці святой далучыўся да выканання місіі Міласэрнасці.

Галоўнай справай, у распазнанні якой удзельнічаў а. Андраш, было пытанне аб "новай кангрэгацыі". Упершыню пра гэтую ідэю ён пачуў ад сястры ў кастрычніку 1935 года, калі яна прыехала на рэкалекцыі ў Кракаў. З самага пачатку ён сцвярджаў, што ідэя стварэння кангрэгацыі, якая б абвяшчала і прасіла Божай Міласэрнасці для свету, з'яўляецца добрай і неабходнай для Касцёла. Аднак рэкамендаваў асцярожнасць, малітву і ахвяраванне пакут у гэтай інтэнцыі, каб справа была правільна распазнана.

Сястра называла а. Андраша "духоўным правадыром", "вогненным стаўпом", які асвятляе дарогу да больш цеснага саюза з Богам, і шкадавала, што такіх святароў вельмі мала. Яна спазнала, наколькі айцец даспадобы Богу, шанавала яго як святога. Падчас адной св. Імшы с. Фаўстына ўбачыла Найсвяцейшую Маці з Дзіцяткам Езусам. Нечакана радасна пабегла да цэнтра алтара і дазволіла айцу прычасціцца Ім. Тады Маці Божая сказала сястры: "Глядзі, як спакойна я аддаю Езуса ў яго рукі. Ты можаш гэтак жа давяраць яму сваю душу і быць з ім, як дзіця" (Дз. 677). Хрыстос называў а. Андраша сваім "сябрам сэрца", "намеснікам", "заслонай", за якой Ён хаваецца. "Я кажу яго вуснамі і жадаю, каб з той жа прастадушнасцю і шчырасцю ты адкрывала яму стан сваёй душы, як гэта робіш перада Мною" (Дз. 979).

Пад кіраўніцтвам а. Андраша быў напісаны абраз Езуса Міласэрнага, вядомы сёння сваімі ласкамі ў санктуарыі ў Кракаве-Лагеўніках. Айцец увёў у кожную трэцюю нядзелю месяца ўрачыстыя набажэнствы да Божай міласэрнасці ў манастырскай капліцы Кангрэгацыі ў Лагеўніках і свята Міласэрнасці. Па яго ініцыятыве пачаўся збор успамінаў аб с. Фаўстыне. Айцец стаў аўтарам першай біяграфіі місіянеркі Божай міласэрнасці. Яго кніга "Божая міласэрнасць... спадзяюся на Цябе" распаўсюджвала шанаванне Божай міласэрнасці ў формах, перададзеных святой с. Фаўстынай. Была перакладзена на мноства моў і разышлася па ўсім свеце ў велізарных тыражах.

***А. Андраш вельмі высока цаніў духоўнае кіраўніцтва кс. Сапоцькі. Раіў с. Фаўстыне ва ўсім звяртацца да духоўнага настаўніка з Вільні і сам лічыўся з яго меркаваннем. Са свайго боку кс. Сапоцька высока цаніў а. Андраша. У лістах да с. Фаўстыны ён раіў адкрыта гаварыць са сваім спаведальнікам пра ўсе падзеі, унутраныя пабуджэнні, быць ва ўсім яму паслухмянай. Кожны раз браў з яе слова не рабіць ніякіх дзеянняў без згоды а. Андраша. Абяцаў маліцца за яго, каб свет Божы кранаў душу айца. Гэтая ўзаемная павага і давер, якія святары адчувалі ў адносінах адзін да аднаго, спрыялі не толькі развіццю духоўнага жыцця с. Фаўстыны, але і лепшаму разуменню і выкананню місіі, даручанай ёй Госпадам Богам.***

***Ангеліна Пакачайла***




***Працягваем далей нашыя разважанні над сакрамантам пакаяння і паяднанння. У двух папярэдніх нумарах "Слова Жыцця" мы з вамі займаліся аналізам першай умовы добрай і плённай споведзі – рахунку сумлення. Сёння звернем сваю ўвагу на другую ўмову – жаль за грахі.***

Пасля таго, як мы ўсвядомім стан уласнай грэшнасці, у якой мы знаходзімся перад Богам, пасля таго, як разарвём з Ім прыязныя стасункі і страцім стан асвячаючай ласкі, лагічным наступствам будзе выражэнне глыбокага пакаяння – жалю за свае грахі. Трыдэнцкі сабор акрэслівае жаль за грахі як "боль душы і агіду ад здзейсненага граху з пастановай больш не грашыць" (Denz 1676).

Жаль за грахі не можа абапірацца толькі на хвілінныя пачуцці, але на рашучасць волі адвярнуцца ад зла, на змену жыццёвага кірунку і на вяртанне да новага жыцця з Богам. Гэта здзяйсняецца пад уплывам Божай ласкі, якая асвячае розум і ўзмац-няе волю. Тады чалавек бачыць, якую крыўду ён прычыняе сабе праз грахі і як блізка да яго небяспека вечнага асуджэння. Ён таксама заўважае, як моцна зняважыў любячага Бога. Тады чалавек асуджае свае грахі праз прызму Хрыстовага крыжа. У яго жыцці адбываецца метаноя – унутранае перамяненне, часта спалучанае з эмацыйнай узрушанасцю, якой з'яўляецца смутак з-за ўчыненай крыўды, і сорамам перад Богам. Недастаткова толькі дэкляраваць на словах, неабходна ўнутрана і рашуча адвярнуцца ад граху, разарваць прывязанасць і задавальненне ад грахоў, адчуць агіду і адкінуць зло. Падобна евангельскаму блуднаму сыну, грэшнік таксама рашаецца парваць са станам граху, у якім ён знаходзіўся да гэтага часу, і вярнуцца да Бога, які яго чакае і любіць.

Таму сапраўдны жаль за грахі павінен уключаць у сябе таксама глыбокую веру ў тое, што для Бога, які з'яўляецца бясконцай Любоўю, чалавек вельмі важны. Бог адкупіў яго цаной сваёй крыві, але ніколі не можа згадзіцца на яго грэх. Разглядзім гэта на прыкладзе двух вядомых нам Апосталаў. Пётр і Іуда зграшылі, гэта праўда. Абодва зразумелі, што зрабілі, і прыйшлі прызнаць сваю віну. Іуда сказаў: "Зграшыў я, бо выдаў нявінную кроў" (Мц 27, 4), а "Пётр горка заплакаў" (Мц 26, 75). Іуда застаўся са сваім вызнаннем граху ў роспачы, нянавісці і пагардзе да самога сябе. Ён не здольны быў адкрыцца на міласэрнасць Хрыста і на Яго прыход. Пётр пайшоў далей за свае грахі, падняўся над імі, дайшоў да Божай любові, і яна нават паспрыяла таму, што ён аддаў жыццё за Езуса ў мучаніцкай смерці. Магчыма, ён толькі тады зразумеў сваё: "Ты ведаеш, што я люблю Цябе" (Ян 21, 16). Пётр на момант пахіснуўся, але гэта не было адхіленне ад асноўнай дарогі, гэта не было перакрэсліванне яго жыццёвага ідэалу. Іуда не вярнуўся да стану першапачатковага пакліканія, любові. Пётр жа вярнуўся хутка і эфектыўна. Пастава Пятра – гэта пастава грэшніка ў сакраманце пакаяння. Святы Пётр даказаў, што сапраўднае навяртанне і жаль за грахі здзяйсняюцца ў чалавеку, абапіраючыся на веру і любоў: "Пане, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе" (Ян 21, 17).

● Працяг у наступным нумары

# Адкрыць сябе нанова праз Хрыста





Вера ў Бога нас акрыляе, умацоўвае і дадае бадзёрасці

Час рэкалекцый быў вельмі насычаным: моладзь прымала ўдзел у св. Імшах, набажэнстве Крыжовага шляху, адаравала Найсвяцейшы Сакрамант, а таксама мела магчымасць паяднацца з Богам праз сакрамант пакаяння. Шмат часу было адведзена на размовы з рэкалекцыяністам і разважанні, якія дапамаглі маладым людзям паглядзець на штодзённае жыццё і веру з іншага ракурсу.

Звяртаючыся да маладых хлопцаў і дзяўчат падчас рэкалекцыйных канферэнцый, кс. Павел шмат увагі прысвяціў тэме шляху да Бога. Ён падкрэсліў, што веруючы чалавек не павінен жыць на нейкім адзінокім востраве, а павінен памятаць пра тое, што яго атачаюць людзі. Таму неабходна сваім жыццём і адпаведнай паставай сведчыць, што толькі паставіўшы Бога на першае месца, можна атрымаць усё, у чым маем патрэбу. Рэкалекцыяніст таксама патлумачыў, чым адрозніваецца сапраўднае хрысціянства ад павярхоўнага. Калі мы акружаем сябе рознымі атрыбутамі – нацельным крыжыкам, малітоўнымі кнігамі, ружанцам, – а на самой справе застаёмся пустымі духоўна, то тады нашыя знешнія праявы веры губляюць усякі сэнс. Мы становімся падобнымі на мабільны тэлефон, які дорага каштуе, прыцягвае ўвагу іншых людзей, але карысці з яго няма, калі зарадка амаль на нулі.

Напрацягу трох дзён кс. Павел сеяў Божае слова на глебу маладых сэрцаў, прыводзіў прыклады з уласнага жыцця, дзяліўся асабістым сведчаннем веры. Рэкалекцыяніст "зааваяваў" аўдыторыю сваім разважаннем на тэму таго, як можна высока ўзняцца ў сваім хрысціянстве. Дзеля гэтага ён правёў паралель паміж сапраўдным хрысціянінам і арлом – птушкай, якая неаднаразова ўзгадваецца ў Біблії і з'яўляецца сімвалам свабоды.

- Арлы – манагамныя птушкі. Яны выбіраюць сабе пару адзін раз і на ўсё жыццё. Сімвал жыцця сапраўднага хрысціяніна – гэта таксама манагамія, саюз, сям'я.
- Арол ніколі не адпусціць сваю здабычу. Так і ў Евангеллі паводле св. Яна гаворыцца: "Айцец Мой, які даў Мне іх, большы за ўсіх. І ніхто не можа вырваць іх з рукі Айца".
- Арол – гэта птушка, якая лётае вышэй за астатніх. Што дазваляе ёй так добра трымацца ў паветры? Арол мае крылы, у кожным з якіх па 9 напраўляючых пер'яў. Яны дазваляюць парыць у паветры. А кіраваць палётам дазваляе хвост, дзе 5 напраўляючых пер'яў. Усё тое ж самае мае і Касцёл. Першае крыло – гэта дары св. Духа: "Аднаму даецца Духам слова мудрасці, другому – слова пазнання паводле таго самага Духа; іншаму – вера ў тым самым Духу; іншаму – дар аздараўлення ўсё ў тым жа Духу; іншаму– цудатворства, іншаму – прароцтва, іншаму – распазнаванне духаў, іншаму– розныя мовы, іншаму – тлумачэнне моў" (1 Кар 12, 4–11). Другое крыло – плады Святога Духа: "А плён Духа – гэта любоў, радасць, спакой, доўгацярплівасць, лагоднасць, дабрыня, вернасць, далікатнасць, стрымanасць. Супраць такіх няма Закону" (Гал 5, 22–23). І сапраўдны хрысціянін павінен прытрымлівацца балансу, які даў Бог. А хвост – гэта тыя пакліканні, якія перад намі стаяць: "І Ён паставіў адных апосталамі, другіх прарокамі, іншых евангелістамі, іншых пастырамі і настаўнікамі дзеля выхавання святых для справы служэння, для будавання Хрыстовага Цела, пакуль усе мы прыйдзём да еднасці веры і пазнання Сына Божага, да чалавека дасканалага, да меры сталасці паводле Хрыстовай паўнаты" (Эф 4, 11–13).
- Арол валодае надзвычай добрым зрокам і бачыць на 360 градусаў вакол сябе. Хрысціянін таксама павінен мець такія вочы, але не толькі для таго, каб глядзець, але яшчэ каб бачыць, бо гэта зусім розныя рэчы.
- Арол будуе сваё гняздо высока ў гарах, і адзіны, хто можа туды прабрацца, – гэта змяя. Гняздо можна параўнаць з Касцёлам, а змяю – з д'яблам, які прагне знішчыць яго.
- Малыя арляняты п'юць кроў сваіх бацькоў і ядуць іх плоць. Так чыняць і хрысціяне падчас кожнай Эўхарыстыі.
- Калі дарослыя арлы вучаць сваіх птушанят лётаць, яны проста выштурхоўваюць іх з гнязда. І малым нічога не застаецца, як навучыцца распрастоўваць крылы, гледзячы на сваіх бацькоў. Калі з першага разу не атрымліваецца, бацька-арол кідаецца ўніз і падхоплівае дзіця, узмывае разам з ім у вышыню, а пасля ізноў выштурхоўвае з гнязда. Так паўтараецца да таго моманту, пакуль малое не навучыцца лётаць. Так жа і чалавеку Бог дае крылы: дары і плады Святога Духа. Каб высока ўзляцець, імі трэба навучыцца карыстацца.

***На заканчэнне рэкалекцый кс. Павел пажадаў усім удзельнікам стаць сапраўднымі арламі, не арлянятамі, высока лунаць і атрымліваць асалоду ад духоўнага палёту.***

*Кінга Красіцкая*

### Алена Харольская

*Калі кс. Антоній запрашаў нас на рэкалекцыі, то ўсё, што мы ведалі пра кс. Паўла, гэта тое, што ён "хуліган Хрыста". Зыходзячы з такой цікавай характарыстыкі, нельга было не пайсці на рэкалецыі, хоць бы па прычыне цікаўнасці. У выніку духоўныя практыкаванні сапраўды аказаліся вельмі файнымі, бо прымусілі задумацца над уласным жыццём, паразважаць аб сваёй веры і ўзаемаадносінах з Богам. Кожны па-свойму перажыў гэтае "духоўна-баявое" вучэнне, паколькі ўсе мы розныя, і кожны мае свой уласны жыццёвы шлях і досвед.*

*Кс. Павел вучыў, што ў веры, справах і пакліканні трэба гарэць і не згараць, як куст, які прыцягнуў увагу Майсея ў пустыні. Больш за тое, трэба дзяліцца сабою з іншымі. Але многія задаюцца пытаннем: "Як мець гэты запал, калі ў жыцці столькі праблем?". Над гэтым кс. Павел паразважаў падчас канферэнцыі "Нашы любімыя сябры – праблемы". Часам чалавек настолькі паглыбляецца ў свае праблемы, што не заўважае нічога вакол сябе. І сам робіць іх невырашальнымі. Калі азірнуцца і паглядзець на адну з праблем з мінулага, то можна заўважыць, што зараз мы ўзгадваем яе з усмешкай. Цяжкасці будуць у нашым жыцці заўсёды, але не вартаператвараць іх у бажаство.*

*У Пасланні да Карынцянаў гаворыцца: "Вы не былі выпрабаваныя па-над людскія сілы. Бог, які ёсць верным, не дазволіць выпрабоўваць вас больш, чым маеце сілы, але разам з выпрабаваннем дасць і выйсце, каб вы маглі вытрываць" (1 Кар 10, 13). Кс. Павел параўнаў хрысціяніна з арлом і падкрэсліў, што кожны вернік павінен быць як арол, які шырока распраўляе крылы і ўзлятае ў самую высь. І прыгадаў такую гісторыю: "Адзін фермер падабраў маленькае арляня і пасяліў яго на ферме сярод хатніх птушак. Арляня ніяк не магло распазнаць свайго паклікання, бо не было падобнае ні на гусей, ні на індыкоў, ні на курэй. Аднойчы птушаня ўзняло галаву і ўбачыла арла, які лунаў высока ў небе. Арляня зразумела, што гэта і ёсць яго пакліканне, разагналася, каб паспрабаваць узляцець, але певень падставіў яму падножку, і арляня ўпала. Певень рассмяяўся і сказаў арляняці, што ніякі ён не арол, а звычайная курыца". Праз гэтую гісторыю кс. Павел хацеў данесці да нас, што падобныя сітуацыі маюць месца і ў штодзённым жыцці хрысціяніна. Але насуперак усяму, не трэба слепа верыць у тое, што кажуць іншыя, неабходна давяраць сваё жыццё Богу.*

### Павел Станіслаўчык



*Сёлетнія рэкалекцыі – гэта проста незабыўныя тры дні ў атачэнні цудоўных людзей. На самой справе было вельмі шмат "ежы" для роздуму і разважанняў, і зараз, дзякуючы рэкалекцыям, я гляджу на многія рэчы іншымі вачыма.*

### Андрэй Лябецкі



*Яшчэ ніводных рэкалекцый я не чакаў так, як гэтых. Ведаючы, што іх будзе праводзіць кс. Павел Рудзьман, я з кожным днём адчуваў усё большае жаданне прыняць у іх удзел. Але паколькі я быў знаёмы са стылем зносін кс. Паўла, то крыху перажываў, што моладзь гродзенскіх парафій няправільна ўспрыме яго словы. Таму я шчыра маліўся ў інтэнцыі рэкалекцый. І нягледзячы на мае перажыванні, усё прайшло на хвалу Божую.*

*Мне падаецца, што гэтыя рэкалекцыі дапамаглі моладзі паглядзець на праблемы ў сваім жыцці з іншага боку. Яны дапамаглі зразумець, што калі ты абіраеш Езуса за свайго куміра, то ў цябе з'яўляецца толькі адзін напрамак – толькі наперад, толькі "algat".*

### Алёна Сапешка



*Цудоўныя рэкалекцыі! Кожнае слова кс. Паўла мела вялікі сэнс і вагу. У першы дзень рэкалекцый мне было цяжка ўявіць, як можна быць маладым і так моцна любіць Бога, што жыццё з Ім будзе здольна акрыляць і напаўняць пазітывам! А на другі і трэці дзень я пераканалася, што недастаткова давяраць Богу маленькія кавалачкі жыцця, трэба давяраць Яму ўсё, любіць і размаўляць з Ім, як з лепшым сябрам. Трэба быць іскрай, распавядаць пра Бога іншым людзям. Яшчэ мне вельмі спадабалася, што падчас рэкалекцый можна было пачуць шмат цытат з Біблії ў цікавай і даступнай інтэрпрэтацыі. Таксама было шмат прыкладаў з жыцця.*







### Самая вялікая статуя Марыі

**У старажытным Эфезе з'явіцца самая вялікая статуя Марыі ў свеце. Аб гэтым паведаміў бурмістр турэцкага горада Сельчук, на ўскраіне якога ляжыць Эфез. У наступным годзе там плануецца арганізацыя Міжнароднага сімпозіума на тэму рэлігійнага турызму і пілігрымак.**

Статуя Маці Божай будзе збудавана ля падножжа ўзгорка, на якім знаходзіцца г.зв. домік Марыі. Паводле адной з традыцый, у ім на працягу апошніх гадоў свайго жыцця жыла і памерла Маці Хрыста. Улады горада лічаць, што вялізная статуя Марыі прыцягне ў гэты рэгіён Турцыі шматлікіх турыстаў і пілігрымаў.




### Беларусы перакладаюць Біблію праз "Skype"

**Як вядома, Францішак Скарына заняўся перакладам Бібліі на беларускую мову яшчэ ў XVI стагоддзі. Але дагэтуль, як ні парадаксальна, Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, якая не мае арыгінальнага, поўнага перакладу Святога Пісання на нацыянальную мову.**

Група навукоўцаў-энтузіястаў на грамадскіх пачатках вядзе гэтую працу з 2012 года. Тады ж была складзена канцэпцыя акадэмічнага навуковага перакладу Бібліі. У праекта цяпер дзве рабочыя назвы: "Новая беларуская Біблія" і "Скарына-21" (як працяг скарынаўскай працы для XXI стагоддзя). Навуковы пераклад мусіць быць не толькі з арыгінальных моў, але і з найлепшых біблістычных навуковых пракаментаваных крыніц.

Цяпер у праекце працуе каля дзесяці чалавек – гэта гебраісты, філолагі-класікі, багасловы, біблісты – людзі незалежна ад канфесійнай прыналежнасці і, перш за ўсё, вельмі кваліфікаваныя спецыялісты. Усе перакладчыкі – беларусы з розных краін свету: Чэхіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, Аўстрыі ды і самой Беларусі. Перакладчыкі працуюць праз "Skype".




### Выключная аўдыенцыя для дзяцей

**Папа Францішак прыняў на прыватнай аўдыенцыі ў Ватыкане дэлегацыю дзяцей, якія даслалі яму лісты з пытаннямі.**

Разам з дзецьмі прысутнічаў ініцыятар гэтай падзеі а. Антоніа Спадара. Менавіта ў яго рукі прыйшло 259 лістоў з пытаннямі ад дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў. Італьянскі езуіт задаў Папе пытанні, сустрэўшыся з ім у Доме св. Марты. "Што рабіў Бог, перш чым стварыў свет?" – "Любіў". "Чаму бацькі часам сварацца?" – "Бо яны толькі людзі".

Папа пастараўся адказаць на дзіцячыя пытанні, у выніку чаго ўзнікла выключная кніга пад назвай "Любоў да свету".

*Кінга Красіцкая*

## Свята хлопчыкаў і мужчын адбылося ў смаргонскім араторыі

*Выхаваўчай мэтай свята было разважанне над якасцямі і ўменнямі сапраўднага мужчыны і абаронцы Бацькаўшчыны. У мерапрыемстве прынялі ўдзел больш за 80 чалавек.*

Свята распачалося святой Імшой. Падчас гаміліі дзеці разам з бацькамі разважалі пра любоў Пана да ўсіх людзей і пра радасць, якая выцякае з гэтай любові. Працягнулася свята ў араторыі св. Яна Боско, дзе прысутныя мелі магчымасць праверыць сваю трапнасць і мастацкія здольнасці, а таксама прыняць удзел у спаборніцтвах па армрэслінгу.

Мерапрыемствы арганізавалі сябры салезіянскай супольнасці пры дапамозе сястры Валянціны Кот FMA і ксяндза Паўла Шчарбіцкага SDB.



## Дзень спорту прайшоў у Шчучыне

*20 лютага ў кляштары айцоў піяраў у Шчучыне быў арганізаваны спартыўны дзень для літургічнай службы алтара і моладзевага хору “Calasanz”.*

Спартыўны дзень пачаўся конкурсам ведаў аб святых апекунах спорту і міністрантаў, а таксама біяграфіі папы Францішка і ўчынках міласэрнасці для душы і цела. Для жадаючых адбыўся таксама конкурс на тэму міласэрнасці ў кантэксце перажываемага літургічнага года.

Затым пачаліся спартыўныя спаборніцтвы. Пераможцы атрымалі ўзнагароды, а тыя, хто заняў першыя два месцы ў турніры па настольным тэнісе, атрымалі магчымасць прыняць удзел у спаборніцтвах у Лідзе.



## Біскуп Юзаф Станеўскі памаліўся за абаронцаў Беларусі

*23 лютага, у Дзень абаронцаў Айчыны, іерарх узначаліў святую Імшу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.*

Біскуп заахвоціў прысутных да малітвы ў інтэнцыі тых, хто аддана прысвячае сябе Айчыне і служыць у войску, забяспечваючы супакой у краіне. У гаміліі іерарх адзначыў, што вайсковая служба з’яўляецца не толькі працай або абавязкам, але і павінна быць унутраным голасам сумлення, водгукам сэрца.

Ваенная традыцыя праз вякі злучала ваенную службу з любоўю да Айчыны.

Біскуп падкрэсліў, што дух “любові да Айчыны” можа абудзіць прысутнасць святароў у войску – падчас прысягі, свят і з іншых нагод. Паводле слоў іерарха, было б добра, каб у кожнай буйной вайсковай частцы прысутнічаў вайсковы капелан і было прызначана адмысловае месца для малітвы – капліца.



## У Шчучыне прайшла сустрэча моладзі з сястрой піяркай

*Удзельнікі сустрэчы даведаліся пра заснавальніцу супольнасці піярак, а таксама пра штодзённае жыццё сясцёр.*

Сустрэча парафіяльнай моладзі са спецыяльным госцем – сястрой піяркай Марынай, якая родам са Шчучына, адбылася ў кляштары айцоў піяраў.

Некаторыя з удзельнікаў сустрэчы ўпершыню пачулі, што акрамя айцоў піяраў у Касцёле існуюць таксама манахіні падобнай супольнасці, якія бачаць прыклад наследавання Хрыста ў заснавальніку супольнасці піяраў святым Юзафе Каласансе.

Заснавальніцай Інстытута Дачок Марыі Сясцёр Пабожных Школ (так гучыць поўная назва супольнасці сясцёр піярак) з’яўляецца святая Паўла Монтал, якую Касцёл успамінае 26 лютага. Сёння сёстры піяркі служаць ва ўсім свеце, асаблівым чынам ва ўласных школах: вучаць і выхоўваюць дзяцей і моладзь.



## Мужчыны св. Юзафа правялі велікапоснае набажэнства ў Гродзенскай катэдры

*17 лютага ў гродзенскім фарным касцёле пасля вячэрняй св. Імшы прайшоў Крыжовы шлях, арганізаваны рухам “Мужчыны святога Юзафа”.*

Падчас чатырнаццаці стацый вернікі разважалі на тэму пакут Хрыста. Удзельнікі руху зачытвалі ўрыўкі са Святога Пісання, якія прыадкрылі сэнс і паслядоўнасць падзей, заклікалі пераасэнсаваць свае адносіны да веры і да Госпада. Заклікалі зразумець, якім коштам мы адкуплены Хрыстом, а таксама прасілі зірнуць на тое, якім жыццём мы жывём і ці робім тое, да чаго нас заклікаў і прадаўжае заклікаць Бог.



## “Будзьце сведкамі Міласэрнасці”

*Пад такой назвай адбылася фармацыйна-рэкалекцыйная сустрэча Каталіцкага таварыства польскіх чыгуначнікаў. У ёй таксама прынялі ўдзел каталіцкія чыгуначнікі з Беларусі.*

Спатканне працаўнікоў чыгункі адбылося 26–28 лютага ў Вадавіцах (Польшча). Яго ўдзельнікамі сталі члены беларускага душпастарства чыгуначнікаў з Гродна, Ліды, Ваўкавыска і Маладзечна. Рэкалекцыйныя разважанні ўзначаліў кс. Рышард Марцiняк SAC.

Падчас рэкалекцый удзельнікі наведалі дом-музей св. Яна Паўла II, даведаліся аб цікавых фактах з яго жыцця, а таксама мелі магчымасць памаліцца пры рэліквіях святога ў касцёле, дзе ён быў ахрышчаны.



## АНОНСЫ

### ЗАПРАШАЕМ НА РЭКАЛЕКЦЫІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ РАСПАЗНАННЮ ПАКЛІКАННЯ

***Духоўныя практыкаванні пачнуцца 18 сакавіка ў будынку Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі*** *(вул. Парыжскай Камуны, 1)* ***у 17.00 і завершацца 20 сакавіка пасля абеду. Да ўдзелу запрашаюцца юнакі ад 14-гадовага ўзросту.***



*Рэкалекцыі распазнання паклікання будуць прысвечаны тэме “Устану і пайду да майго Айца”. У праграме запланаваны канферэнцыі, святая Імша, адарацыя, ранішняя і вячэрняя малітвы, магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння, размовы са святарамі і семінарыстамі. Будзе магчымасць сустрэцца са сваімі знаёмымі ці знайсці новых сяброў. Рэкалекцыі дапамогуць маладым людзям задумацца над сваім жыццём, а асабліва над тым, ці з’яўляецца іх пакліканнем шлях святарства.*

***Арганізатары просяць паведаміць аб сваім удзеле па тэлефоне (8 0152) 77-02-34 ці на электронны адрас wsd@grodnensis.by.***

### ЗАПРАШАЕМ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У КРЫЖОВЫМ ШЛЯХУ ВУЛІЦАМІ ГРОДНА

***Малітоўнае разважанне Крыжовага шляху адбудзецца 19 сакавіка.***

*Святая Імша пачнецца ў 19.00 у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пасля Імшы вернікі пройдуць вуліцамі горада (па Савецкай плошчы да Пабернардынскага ўзгорка), разважаючы над стацыямі Крыжовага шляху Езуса Хрыста.*

***Удзельнікам просьба прынесці з сабой свечкі.***



### ЗАПРАШАЕМ МОЛАДЗЬ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ НА ПРАЦЭСІЮ Ў ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ

***У Пальмовую нядзелю, 20 сакавіка, у Гродне адбудзецца святочная працэсія і святая Імша, якую будзе цэлебраваць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Да ўдзелу ў працэсіі і святой Імшы запрашаецца ўся моладзь дыяцэзіі.***

*Працэсія пачнецца на Пабернардынскім узгорку ў 13.00. Удзельнікі пройдуць па Савецкай плошчы да катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя, дзе ў 14.00 біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліць святую Імшу.*

*Усім удзельнікам патрэбна ўзяць з сабой вербы. Як і ў мінулыя гады, будзе праходзіць своеасаблівы “конкурс вербаў”. Кожная гродзенская парафія, а таксама моладзевыя суполкі будуць прэзентаваць свае святочныя вербы.*



## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Ці прымаеце Вы ўдзел у гучных забавах падчас Вялікага посту?




*У чарговым апытанні мы прапанавалі нашым чытачам адказаць на пытанне, ці здольны яны адмовіцца ад гучных забаў на час посту. Рашучая большасць рэспандэнтаў сцвердзіла, што не ўдзельнічае ў гучных забавах у велікапосны перыяд. Ёсць тыя, хто пераносіць святкаванне на пазнейшы час. Але ёсць таксама група людзей, якім цяжка адказаць на гэтае пытанне.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Чарговае “велікапоснае” апытанне дае нам прадмет для роздуму. Вынікі зусім не здзіўляюць. Большасць з нас разумее сэнс перыяду Вялікага посту, які носіць пакаянны характар. Але ёсць таксама тыя, каму цяжка адказаць на пытанне анкеты, альбо тыя, хто ідзе на святкаванне з ветлівасці да таго, хто запрашае. Бясспрэчна, такія святы, як 23 лютага і 8 сакавіка, у нашым грамадстве дастаткова закаранёныя і святкуемыя. Сучаснаму католіку цяжка адмовіцца ад правядзення гучных забаў у гэтыя дні. Таму варта падумаць пра тое, на якім узроўні знаходзіцца наша духоўнае развіццё, наколькі мы любім Хрыста і прагнем уласнага навяртання. Варта перажыць гэты час у большым супакоі і роздуме над тым, што Езус памірае за кожнага з нас і адкрывае нам брамы неба.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Няцеч;* кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Ляцк;* кс. Францішак Цыбульскі, *проб.Трабы;* кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;* кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда-Слабада;* кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда-Слабада;* кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;* кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда-Фара;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Вялькевіч SDB, *проб. Дзятлава.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра сямейныя абавязкі, звёны жыццёвага ланцужка і нагоды для падзякі і прабачэння. Задумаемся, што пакласці на сямейны алтар і як палепшыць надвор'е ў доме.*

*Наперад з Богам!*



*Ангеліна Пакачайла*

# Адчуць смак слоў "дзякуй" і "прабач"

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Аднак у Пану няма ні жанчыны без мужчыны, ні мужчыны без жанчыны" (1 Кар 11, 11)**

Першапачаткова жанчына была створана ад мужчыны, але зараз мужчына не народзіцца без жанчыны. Бог паклікаў сужэнцаў узаемна дапаўняць адзін аднаго і разам праслаўляць Яго. Усё створанае ад Бога і для Яго.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб сем'і, якія апынуліся ў цяжкім становішчы, атрымалі неабходную падтрымку, а дзеці маглі расці ў здаровым і спакойным асяроддзі**

Папа Францішак заклікае католікаў усяго свету прысвяціць свае малітвы за сем'і, якія перажываюць цяжкасці. Сучаснасць жорстка выпрабоўвае сужэнскія саюзы, што не можа не адбіцца на псіхіцы дзяцей. Таму з запалам памолімся аб спрыяльным клімаце ў сем'ях.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: сям'я**

Ніхто з нас не прыйшоў з неадкуль, а з'яўляецца звяном ланцужка пад назвай "сям'я". Спярша мы вырастаем у сем'ях, дзе нас выхоўваюць бацькі, а потым самі становімся бацькамі і выхоўваем ужо сваіх дзяцей. Кожны нясе аднолькавую адказнасць за суседнія звёны гэтага ланцужка: за тых, хто даў жыццё нам, і за тых, каму далі жыццё мы. Час паразважаць над сваімі абавязкамі ў адносінах да самых дарагіх людзей і задаць сабе важнае пытанне: а ці ўсё я раблю, што магу і павінен?

**МЭТА МЕСЯЦА: адчуць смак слоў "дзякуй" і "прабач"**

Словы "дзякуй" і "прабач", як правіла, прысутнічаюць на малітве. Роўным чынам яны павінны кранаць душы людзей. Пачаць трэба з родных, пашыраючы арэол сваёй спагадлівасці на знаёмых і незнаёмых.

Нагода, каб за нешта падзякаваць ці папрасіць прабачэння, ёсць заўсёды. Пытанне заключаецца ў тым, наколькі адчувальнае наша сэрца, ці гатовыя мы да ўдзячных і сумленных водгукаў.

**СПРАВА МЕСЯЦА: больш часу правесці з сям'ёй**

Сённяшні рытм жыцця незаўважна паглынае чалавека ў віхуры спраў. І, здаецца, ім няма канца. Цярпяць члены сям'і, якія патрабуюць увагі і клопату. Пастараемся ж знайсці час, каб ахвяраваць яго на сямейны алтар. Бо час – гэта найкаштоўнейшае, што чалавек можа даць другому: яго нельга вярнуць, ён не вяртаецца. Дзякуючы сумеснаму баўленню часу, людзі адчуваюць сябе патрэбнымі, за спіной вырастаюць крылы, якія прыўздымаюць над зямлёй. Менавіта сям'я з'яўляецца той крыніцай аднаўлення, з якой належыць чэрпаць сілы.

**КНІГА МЕСЯЦА: "Хрысціянскае выхаванне", а. Казімір Енджэйчак OMI**




Кніга будзе карысная людзям розных узростаў. Аўтар аналізуе рэлігійна-псіхічнае развіццё чалавека па перыядах: прэнатальны, дашкольны, дзіцячы, малодшы школьны, сярэдні школьны, старэйшы школьны, маладосць, ранняя дарослае, сярэдняя дарослае, позняя дарослае або старасць. У кнізе таксама разглядаецца выхаваўчая дактрына каталіцкага Касцёла і такія паняцці як "хрысціянская маральнасць", "хрысціянскі персаналізм", "хрысціянскі гуманізм", "хрыстацэнтрызм".

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Сям'я", Вікторыя Віту**

Выканаўца пачынае песню са слоў, што Бог стварыў свет цудоўным, але яго сказіў грэх. Аднак Усявышні настолькі палюбіў сваё стварэнне, што спаслаў на зямлю свайго Сына, "каб у гэтым жыцці сям'я спазнала Айца". У песні гучыць просьба аб благаслаўленні сужэнства, захаванні яго ад усялякай спакусы і зведанні ім вечнага шчасця.

**АСОБА МЕСЯЦА: святая Луіза**



Луіза дэ Марыяк нарадзілася 12 жніўня 1591 года ў сям'і знатнага чыноўніка французскага парламента. Дзяцінства і маладосць правяла ў шматлікіх манаскіх інтэрнатах. Слабое здароўе стала перашкодай уступлення ў ордэн. Па парадзе родных выйшла замуж за Антуана Ле Гра, сакратара каралевы Ганны Медычы. Шлюб не прынёс Луізе шчасця, паколькі муж быў нарвовым і жорсткім. Акрамя таго, з-за сваёй хваробы ён страціў пасаду. У 1652 годзе Луіза стала ўдавой, апекавалася адным сынам. Божы Провід сутыкнуў яе з Вінцэнтам дэ Полем, пад кіраўніцтвам якога яна прысвяціла сябе працы ў інстытутах міласэрнасці, якія ён заснаваў. Спачатку жанчына была візітатаркай многіх дамоў апекі, а потым стала настаяцельніцай Дачок Міласэрнасці, з якіх паўстала Кангрэгацыя Сясцёр Міласэрнасці (шарыткі). Праца сярод хворых і ўбогіх стала мэтай яе ахвярнага жыцця.

Памерла 15 сакавіка 1660 года. Яе рэліквіі захоўваюцца ў капліцы манаскага дома ў Парыжы. Беатыфікаваў Луізу папа Бенедыкт XV у 1920 годзе, а канanізаваў папа Пій XI у 1934 годзе. У 1950 годзе папа Ян XXIII абвясціў святую заступніцай службы аховы здароўя. Дзень памяці ў каталіцкім Касцёле – 15 сакавіка.

**На скрыжаванні. Маё бачанне**

***"Скрыжаванне – гэта мноства дарог і развязак са знакамі і светлафорамі. Крочачы па гэтых шляхах, мы прымаем шматлікія рашэнні. А знакі і светлафоры на гэтых дарогах з'яўляюцца падказкамі для правільнай арыентацыі. Галоўнае – заўважыць, дзе знак указвае, дзе – папярэджвае, а дзе – забараняе".*** *Ева Мілн*

***"Кожны дзень чалавек стаіць на скрыжаванні, перад выбарам: па якой дарозе пайсці – па дарозе дабра або зла? Але як бы мы не перайшлі гэтае скрыжаванне, у канцы шляху нас будзе чакаць Бог".*** *Юлія Алешчык*

***"Вельмі цяжка стаяць на скрыжаванні, калі з аднаго боку шэпча ўнутраны голас, а з другога – уздзейнічаюць процілеглыя імпульсы. Вось тады прыходзіцца не салодка. Варта з кімсьці параіцца. Найлепшым памочнікам у вырашэнні складаных спраў з'яўляецца Бог".*** *Алена Богдан*

*За разважанні на моладзевай пляцоўцы дзяўчаты атрымліваюць кубачкі з лагатыпам рубрыкі.*

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў сакавіку?***

*Св. Казімір (4 сакавіка), св. Агнешка (6 сакавіка), св. Дамінік (9 сакавіка), св. Яўгенія (10 сакавіка), св. Луіза (15 сакавіка), св. Эдуард (18 сакавіка), св. Мікалай (21 сакавіка), св. Кацярына (24 сакавіка), св. Леанард (30 сакавіка)*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*




# Валанцёры гродзенскага "Карытас" зладзілі велікодны кірмаш

Кірмаш прайшоў у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка). Валанцёры падрыхтавалі разнастайныя hand-made вырабы: велікодныя паштоўкі, традыцыйныя свечкі з назвай дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас", самаробныя цацкі, а таксама мноства варыянтаў хатняй выпечкі. Усе грашовыя сродкі, выручаныя ад продажу, накіраваны на дабрачыннасць.

Такога кшталту кірмашы на трэцім тыдні Вялікага посту (тыдні "Карытас") праходзяць штогод. І валанцёры гродзенскага аддзялення дабрачыннага таварыства з задавальненнем прымаюць у іх удзел.














Кс. Віталь Сідорка

## Ці карае Бог за грахі пры жыцці?

*Як можа падацца на першы погляд, адказ на пытанне просты. Аднак, калі закрануць дадзеную праблематыку глыбей, можна заўважыць шмат цікавых і нават складаных момантаў.*

*Навучанне Касцёла адносна гэтага вельмі яснае: "Бог ніякім чынам, непасрэдна ці пасрэдна, не з'яўляецца прычынай зла". Аднак з дзяцінства, вывучаючы галоўныя праўды веры, кожны католік ведае, што "Бог – Суддзя справядлівы: за дабро ўзнагароджвае, а за зло карае". Як гэта растлумачыць? На маю думку, кожнае здзейсненае маральнае зло (іначай кажучы – грэх) выклікае ў жыцці чалавека канкрэтныя наступствы. Логіка Божай справядлівасці вельмі простая: калі ты здзейсніў нейкі дрэнны ўчынак, то нясі за яго адказнасць. Рэзультат жа граху заўсёды негатыўны, разбуральны. Таму мы часам успрымаем нейкія жыццёвыя няўдачы, праблемы на працы, цяжкасці са здароўем як Божую кару. На самой жа справе, вельмі часта прычынай гэтых цяжкасцей з'яўляецца безадказнае і неабдуманае жыццё, дзе ёсць месца для граху, а не для Бога.*

*З другога боку, здараюцца такія сітуацыі, калі зло закранае чалавека, які, здавалася б, не меў нават тэарэтычнай магчымасці зграшыць. Маю тут на ўвазе малых дзяцей або ўвогуле немаўлят, якія нараджаюцца з нейкімі хваробамі ці атрымліваюць іх у першыя месяцы жыцця. За што ж іх караць, і дзе быў Бог, калі гэта здаралася? Адказ на гэтае балючае і таямнічае пытанне можа даць толькі паўната хрысціянскай веры.Адно вядома, што, як кажа катэхізіс, Бог не дапусціў бы зла, калі б не атрымаў з яго дабра. Прыкладам гэтага з'яўляецца смерць і ўваскрасенне Хрыста. З найбольшага маральнага зла, забойства Божага Сына, мы маем найбольшае дабро – нашае адкупленне.*

*Апошняе, на што хацеў бы звярнуць увагу, гэта нашы легкадумныя адносіны да дадзенай справы. Часам з вуснаў як свецкай, так і духоўнай асобы можна пачуць словы аб тым, што Бог кагосьці і за штосьці пакарае. Так, гэта можа быць наша залішняя эмацыйная рэакцыя на нейкую відавочную няпраўду ці несправядлівасць. Але пры гэтым трэба памятаць, што* ***мы, хрысціяне, пакліканы, перш за ўсё, да таго, каб абвяшчаць праўду аб тым, кім ёсць Бог. А Бог, як падказвае нам апостал Ян, ёсць Любоў*** *(параўн. 1 Ян 4, 16).*

*Паводле grodnensis.by*



# Ліхтаршчык

***Прывітанне, Маленькі Сябар! У кожнага з нас ёсць сваё пакліканне – тое, дзеля чаго нас на зямлю паслаў Бог. Хтосьці стане ўрачом, хтосьці – вадзіцелем, а хтосьці, можа, – святаром. Кожнае прызначэнне патрэбнае і аднолькава важнае ў вачах Айца. Усё залежыць ад таго, як мы будзем адносіцца да сваёй працы.***

***Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, што з'яўляецца вызначальным: не тое, што пра цябе думаюць, а тое, што ты робіш.***

*Было гэта вельмі даўно. У адным сярэднявечным горадзе жыў ліхтаршчык.*

*Чалавек старэйшага ўзросту, несамавіты на выгляд, ціхі і лагодны. Кожны вечар хадзіў ён па горадзе і асвятляў вуліцы. Крэмзаў запалкай па падэшве свайго зношанага чаравіка, ад чаго самы цёмны завулак станавіўся светлым і таму ўтульным.*

*Суседзі мала што ведалі пра беднага ліхтаршчыка. Ён здаваўся нелюдзімым і ў чымсьці нават дзіўным. Гараджане лічылі дзядулю лайдаком: “Ну, хіба не зломак, – абураліся яны, – спіць ўвесь дзень, а ўначы на зоркі любуецца”. Дзеці абзывалі дзядулю начным карлікам, таму што ён з'яўляўся на вуліцы толькі з надыходам змяркання.*

*Кожны раз, чыркаючы запалкай па старой падэшве, сіпплы ліхтаршчык памяншаўся ў росце.*

*Неяк адзін чалавек сказаў яму:*

*– Як ты можаш так жыць? Неўзабаве ж зусім знікнеш! Пашкадуй сябе, усё роўна наўзамен акрамя абразы нічога не атрымліваеш ад людзей. Несправядліва...*

*На гэта ліхтаршчык адказаў:*

*– Людзі застануцца без святла, калі я перастану рабіць сваю працу. А раптам хтосьці не зможа дайсці да хаты, заблудзіўшыся ў цемры? Таго горш, калі кагосьці ўначы пакрыўдзяць на цёмнай вуліцы. Хіба гэта справядліва? А калі светла, то і людзям лягчэй. Можа, і падзякуе хтосьці ў душы. А мне большага і не трэба.*

*Так і чыркаў сіпплы дзядок па падэшве запалкай, становячыся ўсё меншым і меншым, пакуль зусім не знік. Гэтага ніхто і не заўважыў. Але ўсе заўважылі, што ўвечары ў горадзе не загарэліся агні...*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

*Чым займаўся ліхтаршчык?*
*Чаму гараджане лічылі яго дзіўным?*
*Што адбывалася з ліхтаршчыкам, калі ён чыркаў па падэшве запалкай?*
*Ці чакаў ён падзякі?*
*Чаму не пакідаў сваю працу?*

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, душэўнага супакою, усмешкі на твары, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці і св. Антонія. Дзякуем за навуку, якую Вы так шчыра абвяшчаеце пры святым алтары, і за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.

*Парафіяне з Адэльска*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка. Няхай здароўе, шчасце і радасць заўсёды госцяць у Вашым доме, а ўсё, што не ад Бога, няхай ніколі не здолее прабіць сцяну веры і надзеі. Шчасці Божа!

*Студэнты катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым блаславеннем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія Вы дорыце людзям, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. І далей будзьце для нас прыкладам моцнай веры і пабожнасці. Дзякуем Вам за ўсё. Шчасці Божа.

*Валерый, Вераніка і Яна з бабулей, пар. Селіванаўцы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і адорыць усімі ласкамі, каб Вы маглі шчасліва выконваць сваю паслугу. Шчасці Божа.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Селіванаўцаў*

**Паважанаму Айцу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, поспехаў і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць і сілы для абвяшчэння Божага слова. Мы дзякуем Богу за тое, што Вы з намі, а таксама за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жупранаў*

**Паважаным Ксяндзу Казіміру Мараўскаму і Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, а таксама няспыннай дапамогі св. Заступніка. Няхай Ваша праца прыносіць шчодры плён на ніве Пана і будзе дапамогай для нас у дарозе да святасці. Няхай усмешка ніколі не знікае з Вашых твараў, а радасць і дабрыня заўсёды госцяць у сэрцы. Шчасці Божа!

*Пар. Гарачкі, сем'і Орлюкас, Юадэшка*

**Дарагому сыну Ксяндзу Казіміру**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаю Божага блаславлення на кожны дзень, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай паслугі, а таксама здароўя, стойкасці і моцы на нялёгкім святарскім шляху.

*Мама*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе, штодзённай радасці і нязгаснага запалу веры. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а ўсе Вашы планы і намеры здзяйсняюцца з дапамогай Бога і св. Заступніка.

*Парафіяльная рада з Кемелішкаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**

ў Дзень нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя, радасці ад пакліканння. Няхай стойкасць і супакой заўсёды Вам спадарожнічаюць. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за шчырую службу Богу і людзям, а таксама за працу пры будаванні алтароў у нашай святыні.

*Удзячныя парафіяне з касц. св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, мноства цудоўных хвілін на святарскім шляху, шчасця, стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка. Няхай Маці Божая і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца і асцерагаюць у цяжкія хвіліны. Шчасці Божа!

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці, шчасця, поспехаў у працы, душэўнага супакою, святла Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, а таксама ўсіх ласкаў і блаславлення добрага Бога на кожны дзень жыцця.

*Парафіяне з в. Ятвезь*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца складаем пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа і добрых людзей на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*Парафіяне з в. Асташа*

**Паважаны Ксёндз Аляксандр Мятліцкі!**

З нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем, каб Бог адарыў Вас здароўем, сілай і радасцю, а таксама дапамог у будаўніцтве Касцёла. Няхай Езус Хрыстус апякуецца Вамі і прытуляе да свайго Сэрца, Дух Святы няхай узмацняе душу і цела, а Маці Божая – заступніца святароў – ніколі Вас не пакідае.

*З памяццю ў малітве Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Аляксандры Арэшка**

ў дзень Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас здароўем і радасцю, Маці Божая падтрымлівае і адорвае ўсімі ласкамі, а кожны дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Казіміру Жылісу**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і мноства Божых ласкаў, добразычлівых людзей, заўсёды гатовых прыйсці на дапамогу, а таксама сіл і стойкасці ў душпастарскай працы. Няхай добры Бог адорвае сваім бацькоўскім блаславеннем, каб Вы далей маглі будаваць Божае Валадарства на зямлі.

*З павагай працаўнікі рэдакцыі „Слова Жыцця” і тэлестудыі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая атуляе Вас плашчом сваёй мацярынскай любові, св. Заступнік няхай няс-томна апекуецца Вамі, а побач заўсёды будуць добрыя і чулыя людзі.

*Колы жывога Ружанца з Падлабення*

**Паважаны Айцец Валерый Шэйгерэвіч!**

У Ваш Дзень нараджэння праз нашыя малітвы мы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і аддананай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая Вастрабрамская ахінае Вас сваім плашчом і цеплынёй сэрца, ласкамі і дабротамі. Няхай Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы крочым разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітвы і цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і радасных хвілін жыцця.

*Парафіяне з Поразава*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**;
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палііграфістаў, 4; нумар заказу 1228 тыраж 5100; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная